*Незалежнае выданьне Жодзіна й Смалявіцкага раёну*

# Прэс Панарама

2(19)

**10.2008**

Інфармацыйны агляд рэгіянальных і агульнанацыянальных падзеяў



Навіны, факты, камэнтары, карысныя парады: эканоміка, грамадзтва, права, зьмены заканадаўства, калектыўная абарона грамадзкіх інтарэсаў, правоў і свабодаў ...





Анжэліна Джалі – я жыву толькі ў СВАБОДЗЕ!

**МЫ І ... СВАБОДА !?**



**І МЫ – БУДЗЕМ ЖЫЦЬ У СВАБОДЗЕ!**

Licviny-INFA ЗА СВАБОДНЫ ВЫБАР... !



## ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ – ДЛЯ ЎСІХ АДНЫ ... АЛЬБО ГЭТАК, АЛЬБО – “ФУТБОЛ” АДМЕНЯЕЦЦА ДЫЙ ЛЮБІМЫ “ПРЭЗЫДЭНСКІ ХАКЕЙ”– У АДНЫ ВАРОТЫ – ТАКСАМА ...





Не выкананьне элемэнтарных умоваў празрыстасьці й адкрытасьці, транспарэнтнасьці ўсяго выбарчага працэсу, адсутнасьць (кантралюемых назіраньнем і прадстаўнікамі розных бакоў у складзе камісыў) дакладных і зразумелых кожнаму выбарчых працэдураў, ад якіх сёньня, нажаль, цалкам залежыць вынік “падліку галасоў”, азначае толькі адно – Беларусь у чарговы раз (дзякуючы “дубовасьці” ўласнай адміністратыўна-камандднай сыстэмы й парушэньню абавязковых правілаў дэмакратычнага і свабоднага выбарчага працэсу) даказала, што не выконвае ні ўласнага нацыянальнага заканадаўства, ні міжнародных дамоваў у галіне правоў чалавека.





Ï ðýñ Ï À Í ÀÐÀ Ì À



Ініцыятыва “Мы - Ліцьвіны” & Licviny-INFA

Цэнтар Ліцьвіны ў Жодзіне



МЫ – БУДЗЕМ ЖЫЦЬ У СВАБОДЗЕ!

МАЁ САПРАЎДНАЕ ІМЯ – СВАБОДА ... !!!

ПРАВА НА ВЫБАР – АСНОЎНАЕ ДЛЯ ГРАМАДЗТВА!



Licviny-INFA

## Чаму сёньня нельга рэальна абіраць і быць абраным ... у Парлямэнт Беларусі!?

Мы, сябры ПБНФ і праваабаронцы, апанэнты ўлады ў Жодзіне … – ня маем магчымасьці абірацца й быць абранымі ў Парлямэнт Беларусі, бо дзейсная выбарчая сыстэма, цалкам падкантрольная кіруючаму рэжыму, не забясьпечвае адкрыты й празрысты выбарчы працэс на падставе нават самых мінімальных дэмакратычных стандартаў, замацаваных у нормах міжнароднага права ды выбарчым заканадаўстве.

**1.** Акруговыя выбарчыя камісыі зфармаваныя ў выглядзе цалкам падпарадкаваных і кіруемых па вэртыкалі мэханізмаў маніпуляцыі.

У склад камісыяў увайшлі толькі іерархічна залежныя ад кіраўніцтва службовыя асобы, чыноўнікі й супрацоўнікі дзяржустановаў, сябры БРСМ і “партыі ўлады” ...

Незалежныя прадстаўнікі не трапілі ў склад гэтых органаў па Жодзінскай акрузе нават коштам маніпуляцыі дакумэнтамі выбарчага зьместу, якая ўжо на самым пачатковым этапе зафіксаваная пры фармаваньні Жодзінскай акруговай выбарчай камісыі … (заява з 108 подпісамі жыхароў Жодзіна на вылучэньне ў склад АВК №66 Аляксея Лапіцкага ў парушэньне ВК РБ – нават не разглядалася, а старшыня ЦВК, Л.Ярмошына, па дадзеным факце парушэньня выбарчага права – толькі выказала свае спачуваньні ...)

**2.** Участковыя выбарчыя камісыі – зфармаваныя з прызначаных функцыянэраў падпарадкаванай і падкантрольнай рэжыму праўладнай намэнклятуры, яны здольныя выдаць “нагара” любыя неабходныя лічбы “галасаваньня” ...

**3.** Зфармаваныя паралельныя выбарчыя структуры кантролю й кіраваньня выбарчым працэсам – адзіная “намэнклятурна-выбарчая вэртыкаль”, якая й будзе выконваць чарговы “плян па выбарах” …

**4.** Выбарчы фарс распачаты й праводзіцца ва ўмовах безпрэцыдэнтнага ўціску на іншадумцаў і палітычных апанэнтаў улады ва ўмовах абсалютнай манаполіі на сродкі масавай інфармацыі – адбываецца мэтавая дыскрэдытацыя палітычных суб’ектаў, без прадстаўленьня ім магчымасьці быць пачутымі грамадзтвам …

**5.** Адчувальны адміністрацыйны ўціск і ідэалягічны дыктат, перасьлед апанэнтаў улады, у тым ліку – праз структуры працоўных калектываў і адпаведныя дыскрымінацыйныя кантракты … *Працягна стар. 3*






### ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ …

Працяг, пачатак на стар.1

Дзейсная ўлада ў краіне – не забясьпечвае элемэнтарных правоў уласных грамадзянаў-выбарнікаў, а таксама делегаваных імі ў выбарчыя камісыі назіральнікаў …

Нават, калі дамоўныя бакі (у міжнародна-праўным кантэксьце) будуць вельмі жадаць далучэньня Беларусі да цывілізаванай Эўрапейска-Сусьветнай супольнасьці, яны не змогуць гэтага зрабіць з-за таго, што як міжнародны суб’ект права, краіна пастаянна дыскрэдытуе сябе, пpыніжае свой імідж ў пляне дабрасумленнага й надзейнага партнэрства.

І тут, скінуць на кагосьці іншага (празаходне-няправільнага ці ўсходне-нерадзівага) віну за падобны праўны нігілізм і ўпарты дэструктывізм у палітыцы, уладам проста не ўдасца.

*Працягна стар.7*




**6.** Цэнтральная выбарчая камісыя (ЦВК РБ) – не выконвае ўскладзеныя на яе функцыянальныя абавязкі па кантролю над выкананьнем заканадаўства, быцца і не заўважае маштабных сыстэмных парушэньняў выбарчага права, ці ў лепшым выпадку, калі падлог ці маніпуляцыю цяжка ігнараваць з-за іх даказанасьці – проста выказвае спачуваньне пацярпелым учасе праўнага выбарчага бязьмежжа …

**7.** На этапе рэгістрацыі кандыдацкі мандат не атрымалі самыя значыныя для будучага парлямэнту асобы …, засталіся тыя, з каго, ў скрайнім выпадку, без асаблівых стратаў для кіруемасьці новай Палаты Прадстаўнікоў НС РБ можна адабраць “некалі правільных дэмакратаў” для “паказнога дэмакратызму” й наступнай легітымізацыі ўсёй сыстэмы кіруемай ілжэдэмакратыі й “агульнанароднага волевыяўленьня” у Беларусі … пасьля дня чарговага “намэнклятурна-выбарчага самапрызначэньня” .

**8.** “Заганяць народ” на выбарчыя ўчасткі будуць даўно апрабаванымі мэтадамі (і кнутом, і пернікам). А “паляваць на выбарніка”, зьбіраючы недастатковыя для “элегантнай перамогі” подпісы будуць нават на неўстаноўленых Выбарчым Кодэксам перасоўных ці часовых выбарчых участках …– на гэта ўжо атрымана згода ЦВК, што тлумачыцца ростам небясьпекаў тэрарызму на выбарчых участках пасьля вядомага акту запалохваньня грамадзтва й наступных мэтавых палітычных рэпрэсыяў, зьвязаных з злачынным “передвыбарчым выбухам” у Менску.

**9.** А што наконт сьпісаў і сапраўднай колькасьці выбарнікаў ...!? Што наконт “папярэдняга галасаваньня” ...?

**Але ў краіне, якая імкнецца да стабільнасьці, міру й дабрабыту – да дэмакратычных агульнасусьветных каштоўнасьцяў – павінна рэальна дзейнічаць права на свабодны выбар.**

## Што ёсьць сапраўднымі выбарамі … (парамэтры й дэм. стандарты)

Мінімальныя патрабаваньні для таго, каб выбары адпавядалі сваёй назьве:

1) Усе выбарчыя камісыя – фармуюцца на альтэрнатыўнай аснове й працуюць ў межах выбарчага права й дакладна прапісанай дэмакратычнай працыдуры ...
2) Забараняецца дзейнасьць любых паралельных штабоў і цэнтраў кіраваньня ўчасе выбарчага працэсу – выканаўчая ўлада не ўмешваецца ў дзейнасьць выбарчых камісыяў ...
3) У асноўных друкаваных і электронных СМІ краіны гарантуецца рэальны плюралізм думак і выказваньняў – грамадзяне перад тым, як выбіраць павінны ведаць зь першакрыніцаў усе альтэрнатыўныя пазыцыі ў грамадзтве, а забаронены Канстытуцыйна ідэалягічны манапалізм павінен быць зьменены на рэальны палітычны плюралізм , у падмурку якога – свабода слова, думкі й перакананьняў, рэальная свабода СМІ.
4) Любыя парушэньні ВК РБ фіксуюцца й спыняюцца праваахоўнымі ворганамі, парушальнікі прыцягваюцца да вызначанай законам адказнасьці без зважаньня на займаемыя пасады альбо палітычную прыналежнасьць …
5) Агітацыйная кампанія праводзіцца без дзейсных сёньня абмежаваньняў права на мітынгі й сходы, свабодны распаўсюд інфармацыі, абмен думкамі й перакананьнямі …
6) Ліквідуецца інстытут папярэдняга галасаваньня і выбары праводзяцца ў адзін дзень, свабодна і без прымусу да галасаваньня …
7) Падлік галасоў – адбываецца за “круглым сталом” і кантралюецца прадстаўнікамі апанентаў у выбарчых камісыях, цалкам даступны для назіраньня. Вынікі – заносяцца ў пратакол, копіі перадаюцца ўсім зацікаўленым назіральнікам і прадстаўнікам апанэнтаў на выбарах …
8) Акруговыя камісыі пасьля сьверкі пратаколаў з тымі, што маюцца на руках у апанэнтаў на выбарах, толькі ў выпадку адсутнасьці ў іх разыходжаньняў зь імі, зацьвярджаюць канчатковыя вынікі – яны адразу агалошваюцца, заносяцца ў даступныя для ўсіх кампутарныя базы дадзеных …
9) Пасьля здачы апошніх пратаколаў з участкаў Акруговыя камісыі маюць канчатковы вынік галасаваньня, які абвяшчаецца ўсім прысутным і СМІ, прадстаўляецца ў выглядзе сумарна выніковае табліцы па ўсіх участках.

**ТАКІМ ЧЫНАМ, кожны суб’ект права, як мінімум, павінен рэальна мець гэтае права!**

**Грамадзяне павінны мець магчымасьць – рэальна і асэнсавана абіраць на падставе свабоднай і аб’ектыўнай інфармацыі, а кандыдаты – быць абранымі, а не прызначанымі пад “шырмаю выбарнасьці” …**

**Вынікам мусіць быць – адлюстраваная праз рэальны выбар сапраўдная воля народу, а не клану чыноўнікаў, які пераўтварае гэтае найважнейшае грамадзянскае і палітычнае права – у бяздонную кармушку для ненажэрнай і нахабнай намэнклятуры ...**

**Толькі ў выпадку рэальнай выбарнасьці - улада стане сапраўды падкантрольнай выбарнікам! Толькі тады яна пачне рэальна служыць людзям! Чыноўнік будзе падкантрольным і абіраемым. У выпадку памылковасьці выбару – яго можна будзе адклікаць з займаемае пасады …**

**Толькі так, улада можа стаць сапраўды адказнай і эфэктыўнай!**
**І такой можа быць – толькі дэмакратычная альбо рэальна абіраемая ўлада, сапраўды падкантрольная і адказная, бо залежыць ад выбару і волі народу!**

**Права быць грамадзянінам у сваёй краіне – у першую чаргу ёсьць правам абіраць і быць абраным! Грамадзтву патрэбен – рэальны выбар і сапраўдныя выбары!**

**Таму, сёньня мы – не пойдзем на чарговы “выбарчы спэктакль”! А вы …!?**

ÏÐÀ¡ÍÛ ÕÀÐÏÎÑÓ

## Пад вывескай «Выбары - 2008» у Беларусі …

### ХТО ПРАВА «МАЕ», А ХТО АБІРАЕ … – У БЕЛАРУСІ?!

**«Пад вывескай «Выбары - 2008» у Беларусі, без аглядкі на закон, дзейсныя нормы і міжнародна прызнаныя стандарты права, элемэнтарную мараль і этыку чалавечых узаемаадносінаў … – поўным ходам рэалізуецца сцэнар па чарговым неправамерным утрыманьні й пераразьмеркаваньні ўлады».**

Калі казаць адкрыта, сапраўды вельмі зьдзіўляе, што пры ўсёй відавочна касмэтычнай бутафорыі, зь якой кіраўніцтва ЦВК выносіць на публіку ўласныя штучныя намеры рухацца ў кірунку да выбарчае дэмакратызацыі …– улады паралельна працягваюць дзейнічаць яшчэ больш цынічна й нахабна …

Гэтак нахабна – што пачынаеш ужо думаць не аб тым, на колькі недэмакратычнымі, закрытымі ці непразрыстымі зьяўляюцца выбарчыя працэдуры…, а якім жа чынам і ў якой дзяржаўнай, судовай ці праваахоўнай інстанцыі Беларусі можна рэальна зафіксаваць усе гэткія, відавочныя парушэньні выбарчага права, каб зламысьнікі й фальсыфікатары, урэшце, атрымалі па законе?!

Ці ёсьць у краіне інстытуцыя, якая здольная сёньня абараніць нашую грамадзянскую годнасьць, нашае асноўнае грамадзянска-палітычнае права на свабодны і дэмакратычны выбар?! Адказам будзе – рэальнае дзеяньне …, а не пустыя словы! А практыка, пакуль – сарамліва маўчыць.

Як бачым, ведаючы, што адказнасьці за маніпуляцыі дакумэнтамі ці галасамі выбарнікаў – ніколі не наступае, чыноўнікі разбэшчваюцца да такой ступені, што ўжо зусім адкрыта пачынаюць рабіць, у літаральным сэнсе, невытлумачальна дзікунскія з праўнага пункту гледжаньня й незразумелыя нармальнаму чалавеку рэчы.

Прыходзіцца толькі заўважыць, што факт з праігнараваным уладаю выбарам 108 грамадзянаў, якія вылучылі свайго прадстаўніка ў АВК №66 у Жодзіне (іх зварот проста не разглядалі) – ёсьць толькі адным з яскравых пацьверджаньняў таго, што, ня гледзячы на «публічныя заявы», учасе распачатага выбарчага працэсу ўлада працягвае выконваць выключна свае, нічога ня маючыя з выбарчым правам, «прыватныя задачы».

А пад вывескай «Выбары - 2008» у Беларусі, без аглядкі на закон, дзейсныя нормы й міжнародна прызнаныя стандарты права, элемэнтарную мараль і этыку чалавечых узаемаадносінаў … – поўным ходам рэалізуецца сцэнар па чарговым неправамерным утрыманьні й пераразьмеркаваньні ўлады. Бо ўсё, што адбываецца ў гэтае сфэры, ігнаруючы выбар і волю народа, па-за Канстытуцыйнай і законнай, дэмакратычнай працэдураю … – нельга кваліфікаваць па іншаму!

***Аляксей Лапіцкі, Жодзіна.***



## ПАДАДЗЕНА СКАРГА Ў КПЧ ААН

**Жодзінскі праваабаронца дапамог падаць зварот у Камітэт па ПРавах Чалавека пры ААН у Жэнэве (Швэйцарыя). Індывідуальная скарга пададзена па факце неправамернай забароны гарадзкімі ўладамі мірнага мітынгу жыхароў Жодзіна напярэдадні Беларускага “Дня Волі”, што звычайна сьвяткуецца 25 сакавіка 2008 году і скіраваны на падтрымку Незалежнасьці Беларусі, а таксама пакараньня Аляксандра Камароўскага як аднаго з арганізатараў мірнай цэрэмоніі ўскладаньня кветак да абеліску памяці абаронцаў Беларусі “Героі жывуць вечна” на 7 сутак турэмнага зьняволеньня . Згодна з Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах і Факультатыўным пратаколам да яго, кожны грамадзянін пры парушэньні ягоных правоў і свабодаў пры бязьдзеяньні нацыянальнай праваахоўнай сыстэмы як паўнавартасны суб’ект Міжнароднага права можа шукаць абароны праз КПЧ ААН (Жэнэва, Швэйцарыя).**

**Рашэньні КПЧ ААН – абавязковыя для выкананьня ...**

## Праваабарона



Аляксей Лапіцкі



Аляксандар Камроўскі

Licviny-INFA



Дванаццаць патрабаваньняў Эўропы да ўладаў Беларусі - гэта шлях да законнасьці і дэмакратыі, міру і згоды, магчымасьць атрымаць сапраўдную дапамогу для стабільнага разьвіцьця краіны.



## ПРАВААБАРОНЦЫ – ЗА СВАБОДНЫ ВЫБАР! ... факты й высновы

Доўгатэрміновыя назіральнікі за выбарамі ў Беларусі, якія адсочваюць сытуацыю з выкананьнем заканадаўства й выбарчых працэдураў адзначаюць дзейнасьць адмабілізаванае й цалкам падкантрольнае па вэртыкалі, падпарадкаванай дзейснай уладзе структуры, якой без праблемаў можа кіраваць (праз старшыняў Гарадзкіх штабоў і групаў па правядзеньні выбараў, створаных пры кожным выканкаме) вышэйшая кіруючая "чацьвёрка" (!). Акруговыя камісіі, пры гэтым, выглядаюць як паралельны рэгіструюча-выканаўчы ворган, які ўяўляе сярэднюю, прамежкавую прыступку ў іерархіі дадзенай выканаўча-выбарчай "вэртыкалі" альбо публічна пазыцыруемы ворган, які ня можа супярэчыць рашэньням і дзеяньням, што прымаюцца й зьдзяйсьняюцца праз гэтую паралельную "выбарчую піраміду", дзейсную ўчасе любых выбарчых кампаніяў у краіне ...

ПРЫКЛАД – АДКАЗ ЦВК НА СКАРГУ А.ЛАПІЦКАГА, заява якога з 108 подпісамі грамадзянаў на вылучэньне ў склад Акруговай выбарчай камісіі №66 у Жодзіне – была незаконна адхілена і ў парушэньне ВК РБ, нават не разглядалася 14.07.2008г на адпаведным паседжаньні ў Менаблвыканкаме.

Нагадаем, заява з 108 подпісамі адпраўлялася замоўным паштовым адпраўленьнем у Менаблвыканкам 07.07.2008г. Аляксеем Лапіцкім і была дастаўлена па прызначэньні 09.07.08 (да 11.07.08), пра што маюцца адпаведныя адзнакі ў дакумэнце, дасланым заяўніку поштаю ў якасьці апавяшчэньня аб дастаўцы дакумэнтаў. Але на паседжаньні Менаблвыканкаму 14.07.2008г. зварот грамадзянаў і А.Лапіцкага абсалютна неправамерна – проста не разглядаўся.

Па выніках апратэставаньня стала вядома, што ўлады матывавалі неразгляд несваечасовасьцю падачы заявы (быццам яна паступіла 12.07.2008г., пазьней установаўленага тэрміну прыёму заяваў – 11.08.2008г.)

Па дадзеным відавочным факце маніпуляцыі дакумэнтамі выбарчага зьместу й парушэньні працэдуры, прапісанай ВК РБ – праваабаронцам былі пададзены заявы ў ЦВК (ад 15.08.2008 - №3/ЦВК-я) і ў Пракуратуру (ад 16.08.2008г. - №1/ЦВК-я).

Атрыманыя адказы: №0700/63-2008 ад 22.08.2008 з пракуратуры за подпісам в.а. пракурора Менскай вобласьці М.І. Пілінкевіча і №01-09/Л-127 ад 27.08.2008 з ЦВК за подпісам старшыні камісіі Л.М.Ярмошынай.

Але, дадзенае грубае парушэньне ВК РБ і выбарчых правоў грамадзянаў, маніпуляцыя дакумэнтамі выбарчага зьместу, выяўленыя пры гэтым, выклікалі толькі СПАЧУВАНЬНЕ кіраўніцы ЦВК Л.Ярмошынай – і не больш за тое.

Пракуратура Менскай вобласьці параіла заяўнікам зьвяртацца ў суд, а таксама вынесла прадстаўленьне кіраўніцтву Менаблвыканкаму й Менаблсавету з прапановаю ўвесьці Аляксея Лапіцкага ў склад Жодзінскай акруговай камісіі №66, каб хоць неяк кампэнсаваць зьдзейсьненае чыноўнікамі Менаблвыканкаму грубае парушэньне выбарчага права ...

На дадзенае прадстаўленьне пракурора Менаблвыканкам – зусім нічога не адказаў (!?), а старшыня Менаблсавету сп.Герасімовіч – проста не прызнаў уласныя дзеяньні неправамернымі й фактычна прадубляваў пачатковы адказ Амельянчука М.М., у якім скажаюцца факты й праглядаюцца ўсе прыкметы звычайнай маніпуляцыі дакумэнтамі выбарчага зьместу.

Па выніках апошніх адказаў з ЦВК, Пракуратуры, Менаблсавету Аляксей Лапіцкі й Сьвятлана Лапіцкая 07.09.2008г. – падалі судовы зыск для прызнаньня неправамернымі дзеяньняў прадстаўнікоў выканаўчае ўлады па дадзеным выбарчым пытаньні й адмене неправамернага рашэньня адміністрацыі.

У пачатку верасьня "справядлівы й незалежны" беларускі суд – адмовіўся прымаць заяву з прычыны быццам бы "непадведамственнасьці" гэтай справы судам агульнай юрысдыкцыі (!?). Пасьля адпаведнага абскарджваньня Менскі гарадзкі суд скіраваў дакумэнты абратна ў суд Цэнтральнага раёну для прыянцьця заявы згодна закону ... Але й "выбары" ўжо далёка, а судовая скарга быццам згубілася ў "доўгіх, цёмных калідорах нацыянальнага правасудзьдзя"! "АУ-У!" АДЗІНАПРАВІЛЬНЫЯ-я-я!? ДЗЕ Ж ВЫ ... !?



Licviny-INFA

**На фота:**

*1) Сьвятлана Лапіцкая – ўчасе назіраньня на паседжаньні Акруговай выбарчай камісіі №66 у Жодзіне ...;*
*2) Квітанцыя па сваечасовай дастаўцы заявы ў Менаблвыканкам ...*

## Руководитель гомельской организации ОГП Василий Поляков: «Чувство собственного достоинства не позволяет участвовать в этом фарсе»



Долгосрочные наблюдатели ОБСЕ/БДИПЧ посетили Гомельскую область. Кроме встреч с сотрудниками официальных властных структур и избирательных комиссий, наблюдатели беседовали с представителями демократических сил. И прежде всего с теми, кто отказался от участия в «выборах» в качестве кандидатов в депутаты.

«Руководитель миссии наблюдения поинтересовался, почему мы снимаемся на этом этапе с «выборов». Я сообщил, что с самого начала у нас были выдвинуты условия – это включение в состав избирательных комиссий всех наших представителей, это регистрация всех наших кандидатов и, третье, прекращение давления на наших активистов и членов команды кандидатов от единого списка демократических сил. Эти условия не были выполнены.

Чувство собственного достоинства и самоуважение не позволяют кандидатам демократических сил участвовать в этой избирательной кампании, этом фарсе», - заявил в интервью «Радыё Свабода» председатель областной организации Объединенной гражданской партии Василий Поляков, который подал заявление об отказе участвовать в «выборах».

*03.09.2008г.*

**На фота :**

***Штамп і адзнакі аб сваечасовым паступленьні дакумэнтаў ...***
***Пазначана: "Вручено "09"/7 __2008г."***
***Подпісана: "гл. спец. Шаранда"***
***і подпіс ...***



Начальник главного управления
организационно-кадровой работы
Минского облисполкома
М.М.



СЬВЯТЛАНА ЛАПІЦКАЯ

## БОЙКОТ — ОБМАНУ И ПРЕДАТЕЛЬСТВУ!

Представительница Партии БНФ Светлана Лапицкая прямо в помещении Жодинской окружной избирательной комиссии отказалась от участия в выборах в "парламент", демонстративно отказавшись регистрировать свою инициативную группу. В открытом обращении Лапицкая призвала всех высказать недоверие Центризбиркому, нынешнему режиму и не ходить на участки для голосования.

«Этот мой шаг продиктован тем, что для реальных перемен в сторону демократизации избирательного процесса, кроме политических заявлений руководства Беларуси, практически ничего не сделано. Как и ранее, сформированы надежные механизмы для манипуляции голосами избирателей, избирательными комиссиями руководят те же самые лица, которые работали на «план» во всех прошлых избирательных спектаклях…», — заявила Светлана Лапицкая

Светлана Лапицкая была выдвинута в парламент от Партии БНФ.

**24.07.2008 года ў памяшканьні Жодзінскай акруговай выбарчай камісыі №66 я, прадстаўніца Партыі БНФ, Сьвятлана Лапіцкая, афіцыйна абвясьціла пра сваю адмову ўдзельнічаць у так званых выбарах дэпутатаў у "палату прадстаўнікоў" "нацыянальнага сходу" Рэспублікі Беларусь чацьвёртага скліканьня і – дэманстратыўна адмовілася рэгістраваць сваю ініцыятыўную групу.**



# АДКРЫТЫ ЗВАРОТ СВЯТЛАНЫ ЛАПІЦКАЙ

Гэты мой крок прадыктаваны тым, што для рэальных пераменаў у бок дэмакратызацыі выбарчага працэсу, акрамя палітычных заяваў кіраўніцтва Беларусі, практычна нічога не зроблена. Як і раней, зфармаваныя надзейныя мэханізмы для маніпуляцыяў галасамі выбарнікаў, выбарчымі камісыямі кіруюць тыя ж самыя асобы, што працавалі на "плян" ува ўсіх мінулых "выбарчых спэктаклях".

Назіраемыя разыходжаньні ў афіцыйнай рыторыцы і практычных захадах учасе прасоўваньня выбарчага працэсу, не ўключэньне ў склад акруговых выбарчых камісыяў па ўсёй краіне такіх аўтарытэтных і дасьведчаных асобаў, як Станіслаў Шушкевіч, Валянцін Голубеў, Пятро Казлоўскі, Аляксандар Сасноў, Лявон Баршчэўскі …, у тым ліку ў Жодзіне – Аляксей Лапіцкі (праваабаронца, сябра Сойму ПБНФ) – сьведчыць толькі аб адным – выбараў і на гэты раз не будзе.

Улады, ня гледзячы на афіцыйныя заявы, працягваюць (як публічна прызнаўся "гарант Канстытуцыі") "зьневажаць свой народ"...
А садзейнічаць падобнаму падману сваім удзелам у чарговым выбарчым фарсе, як чалавек сумленны й адказны, я – адмаўляюся.

Заклікаю ўсіх тых, хто не разгубіў пачуцьцё ўласнае годнасьці, выказаць свой недавер кіраўніцтву ЦВК, цяперашняму рэжыму й не хадзіць на выбарчыя ўчасткі, не ўдзельнічаць у падложным спэктаклі, сканцэнтраваць свае намаганьні на адстойваньні права на рэальны, свабодны й дэмакратычны выбарчы працэс, на свабодныя й дэмакратычныя выбары ў Беларусі.

Licviny-INFA



Я, Сьвятлана Лапіцкая, сябра ПБНФ, праваабаронка і грамадзкая актывістка, удзельніца ў выбарчых кампаніях 2001, 2003, 2004 і 2006 г.г. – здымаю сваю кандыдатуру не на карысьць нейкага іншага прадстаўніка ў будучым "палітычна-намэнклятурным фарсе", гэта было б абсурдным яшчэ й таму, што ўсе вылучаемыя кандыдатуры з Жодзіна і Смалявічаў сёлета – не выклікаюць даверу як сапраўды самастойныя й незалежныя палітычныя фігуры.
Годная дэмакратычная альтэрнатыва не можа зьявіцца пакуль выбары не стануць рэальнымі, пакуль мы не навучым уладу паважаць кожнага з нас, нашыя правы й свабоды, свой народ.
Паставіць на месца "зарваўшагася чыноўніка" можна толькі сілаю грамадзянскага супраціву – нутранай чысьціні й несакрушальнае веры ў абавязковую перамогу праўды, права й нацыянальнай еднасьці ... Толькі шырокі грамадзкі байкот плянуемага ў нашай краіне чарговага зьдзеку з выбарчага й грамадзянскага права можа спыніць далейшае паглыбленьне краіны ў бездань падману, дыктату й здрады. Толькі так, можна прымусіць чынавенства ўзгадаць пра сапраўдную адказнасьць перад уласнымі выбарнікамі, перад кожным з нас і Беларускім народам. Падман і падмена – там, дзе вузкі "клан чыноўнікаў" узурпаваў права і праз зманапалізаваныя СМІ выказваецца ад імя ўсяго народу.

Але трэба дакладна разумець, што Беларускі народ – гэта не "група адзінадумцаў" (!?). Народ ня можа быць "партыяй" ці нейкім прыдатка да "партыі ўлады"! Як сёньня гэта спрабуе прыпадносіць афіцыйная прапаганда. У Канстытуцыі Беларусі ёсьць наўпростая забарона на падобны ідэалягічны манапалізм дзяржавы і, як сьлед, абавязковасьць падобнага "народнага адзінадумства".

Наш народ – не аморфная шэрая маса клонаў альбо марыянэтак, не "ідэалягічная прыслуга" ля "трону" улады. Наш народ – таленавіты, моцны й непераможны. Ён – разнастайны, талерантны й салідарны. І ня трэба

# АДКРЫТЫ ЗВАРОТ ...

Ï ÐÀÂÀ Í À ÂÛÁÀÐ

“апранаць” яго ў “брудную вопратку ката”, узбройваць “сякераю адзінадумства й правільнасьці”, скіроўваць супраць надуманых ворагаў – “іншадумцаў”! Нашая моц – у салідарным адзінстве – адзінстве ЗА ПРАЎДУ, ГОДНАСЬЦЬ і ЗА СВАБОДУ! У тым ліку – СВАБОДУ ДУМКІ І СЛОВА! Адзінымі мы можам быць толькі ў сваім салідарным імкненьні быць свабоднымі, годнымі й заможнымі – жыць у адзінай свабоднай, мірнай і дэмакратычные Беларусі.

Усё іншае – ад Лукавага. Гэта – працяг шляху да бязконцага, злачыннага расколу грамадзтва. Але ў нас не павінна быць падзелу на “народ” і “ўсіх астатніх”, на “правільных” і “апазыцыйных” грамадзянаў (апошнія – Беларусы – ужо зараз, быццам эмігранты ўва ўласнай краіне …). Таму, у нас няма большага ворага ў краіне, чым падобная “усеагульнанародная афіцыйная правільнасьць” – яна ёсьць пачаткам і працягам неправамернае практыкі “перасьледу за іншадумства” ...

Адзінымі мы можам быць толькі ў свабоднай, незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, якая памятае, адэкватна ўспрымае і разумее, як урокі гіторыі, гэтак і сучаснасьць, ідзе ў ногу з часам, прырастае сябрамі, а не стварае новых і новых ворагаў ...

Таму, я заклікаю да супраціву цяперашняму цынізму й нахабству, зь якімі ўлады рыхтуюцца ў чарговы раз падмануць і яшчэ больш разьяднаць беларускае грамадзтва. Я заклікаю да супраціву падлогу й здрадзе, зь якімі ў Беларусь насоўваецца кланава-алігархічны падзел маёмасьці на новай стадыі – “правільнай беларускай прыхватызацыі” ...

Як без права свабоднага выбару можна заставацца гаспадаром на сваёй уласнай зямлі, быць сапраўдным грамадзянінам ва ўласнай дзяржаве?

Байкот не выбараў, але выбарчага фарсу патрэбен, як рашучы аргумэнт супраціву – для дасягненьня зьменаў у афіцыйных трактоўках палажэньняў Выбарчага Кодэксу РБ, для прыняцьця дакладна прапісанай дэмакратычнай працыдуры па фармаваньні збалансаваных па складзе, самастойных выбарчых камісыяў, для правядзеньня ўсіх этапаў выбарчага працэсу пад пільным праўным кантролем грамадзтва. Беларусі, як паветра, сёньня патрэбныя рэальная свабода СМІ, свабода слова і думкі, мірных мітынгаў і сходаў, асацыяцыяў …, свабода выбару, безь якіх немагчымая ратацыя на любых узроўнях улады, грамадзянская актыўнасьць і зваротная сувязь з выбарнікамі, сапраўдны НАРОДНЫ КАНТРОЛЬ за чынавенствам, рост праўнай культуры й адказнасьці, ўпэўненасьці ў дзейснае сіле права …

Прадстаўнік Жодзінскага рэгіёну ў “парлямэнце” (як і іншых рэгіёнаў Беларусі) павінен быць прынцыповым і сьмелым чалавекам, актыўным абаронцам нашых грамадзянскіх правоў і свабодаў, а не кантралюемай пешкаю ў руках ідэалягічных адзьдзелаў і намэнклятурнай аўтакратыі. Любога рангу чыноўнік ва ўладзе – абавязаны жыць па дзейсных у краіне законах. Спэцслужбы – павінны служыць дзяржаве й народу, быць падсправаздачнымі й кантраляваццa грамадзтвам, якое мусіць пазбавіцца страху, палітычнага перасьледу й дыктату.

Я цалкам падзяляю думку тых палітыкаў і праваабаронцаў, у тым ліку свайго мужа, адзінадумцы й сябра, Аляксея Лапіцкага, які ўпэўнены ў тым, што кожны, хто сваім удзелам падтрымае будучы “выбарчы фарс” у Беларусі, так ці іначай, будзе вымушаны гуляць па правілах дзейснага рэжыму ... А апошні сёньня, проста, спрабуе купіць міравую супольнасьць за некалькі верагодных “незалежнікаў” у “парлямэнце”, якіх “толькі ён” можа “працягнуць” туды і “толькі за вушы”...

“Але выйграць СВАБОДУ, выйграць ПАВАГУ ДА СЯБЕ, давер у сваіх дзяцей, выйграць БУДУЧУЮ, САПРАЎДЫ СВАБОДНУЮ І МОЦНУЮ СВАІМ АДЗІНСТВАМ БЕЛАРУСЬ – нельга, гуляючы па правілах ЦЫНІЗМУ, ХЛУСЬНІ І ЗДРАДЫ …

**Нам патрэбны – спраўдныя выбары!**
**БАЙКОТ – ПАДМАНУ І ЗДРАДЗЕ!**

**МЫ – БЕЛАРУСЫ! І МЫ – ЛІЦЬВІНЫ!**

**МЫ – СПАТКАЕМЦЫ НАШАЙ ВЯЛІКАЙ І ВОЛЬНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!**
**БУДЗЬМА РАЗАМ І – ПЕРАМОЖАМ!**
**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!”**



***Працяг, пачатак на стар.1-2***

Як не імкнулася “прыгожа пахнуць” і выглядаць гэткая “хлебасольная на запрашэньні” “народная намэнклятура”, нават з-пад трайнога слою зялёнай “масьлянай фарбы” і “кітайскага глянцу сьвяточных абгортак”, уважліваму гледачу адкрывалася “тхлявая сутнасьць” і “спрахнелы прымітывізм” падману, на якім яшчэ нешта спрабуе пабудаваць і “шчыра” разважае пра “правільную дэмакратыю” і “няправільную ап-пазыцыю” зусім ардынарны, прадказальны да “апошняй інтанацыі ў голасе” ці літары ў “Дэкрэце №13” – беларускі аўтарытарызм …

Адносіны да ўласных грамадзянаў, да ўласных абавязкаў і адпаведнай адказнасьці – лакмусавая паперка, якую не схаваеш за нацягнутымі ўсьмешкамі ці “праўдзівым” выглядам “БэТэ-шных карцінак” … Ніхто не купляецца больш на падобныя пустышкі.

Пара асэнсаваць, што ключ да пасьпяховасьці дзяржавы Беларусь і ейных грамадзянаў (кожнага з нас, а не ап-пазыцыянэраў ці намэнклятурных-вэртыкальнікаў), ключ да даўгачаканага міру й дабрабыту, упэўненага спакою ў грамадзтве … – у самой улады, ейнай самапавазе й адпаведнай павазе да ўласных грамадзянаў, да Беларускага народу.

“Мяч” (альбо “шайба”, як каму гэта бачыцца) – на баку рэжыма. І ўся адказнасьць за лёс краіны – ува ўладу трымаючых. А правілы гульні – толькі адны … Яны даўно прапісаныя, падпісаныя й абавязковыя для выкананьня ўсімі …

Трымай слова! Выконвай узятыя краінаю дамоўныя абавязкі ў адносінах да ўласных людзей, грамадзянаў … Рэальна прызнай, гарантуй і безумоўна, сумленна рэалізоўвай практычна вядомыя агульнапрызнаныя прынцыпы й нормы міжнароднага права – прапісаныя ў міжнародных дамовах і Канстытуцыі праўныя імпэратывы …

Альбо гэтак, альбо – “футбол” адмяняецца …
Дый любімы “прэзыдэнскі хакей” – у адны вароты – таксама …

Licviny-INFA,
Жодзіна



# Эўрапейскі парлямэнт ухваліў рэзалюцыю па Беларусі

Учора раніцай Эўрапейскі парлямэнт ухваліў рэзалюцыю па Беларусі, якая абмяркоўвалася на ўчорашніх дэбатах . Праект быў падрыхтаваны і ўнесены на разгляд пяцьцю фракцыямі Эўрапарлямэнту.
Ён быў ухвалены абсалютнай большасьцю галасоў. "За" прагаласавалі 597 дэпутатаў, 31 — "супраць", 22 дэпутаты ўстрымаліся.
У рэзалюцыі Эўрапарлямэнт заклікае выканаўчыя органы Эўразьвязу спрасьціць працэдуру атрыманьня эўрапейскіх візаў для грамадзян Беларусі, а таксама прыпыніць візавыя санкцыі Эўразьвязу супраць некаторых беларускіх чыноўнікаў на паўгоду, каб за гэты час у Беларусі быў перагледжаны дыскрымінацыйны закон аб сродках масавай інфармацыі. Пры гэтым прапанова прыпыніць візавыя санкцыі не датычыцца асоб, што ўдзельнічалі ў парушэньнях дэмакратычных выбарчых стандартаў і правоў чалавека.
У рэзалюцыі Эўрапарлямэнт вітае вызваленьне палітвязьняў Аляксандра Казуліна, Андрэя Кіма і Сяргея Парсюкевіча, а таксама называе ўмовы верасьнёўскіх парлямэнцкіх выбараў у Беларусі значна лепшымі, чым падчас выбараў 2004 і 2006 году. Пры гэтым, аднак, у рэзалюцыі выказваецца "глыбокае расчараваньне" тым, што ў Беларусі не адбылося дэмакратычных зьменаў, на якія спадзяваўся Эўразьвяз, і што, нягледзячы на невялікія паляпшэньні, выбары не адпавядалі стандартам Арганізацыі бясьпекі і супрацоўніцтва ў Эўропе.
Эўрапарлямэнт таксама заклікаў беларускія ўлады правесьці сапраўды дэмакратычныя выбары ў адпаведнасьці зь міжнароднымі стандартамі і для гэтага, сярод іншага, даць прадстаўнікам усіх партыяў доступ да выбарчых камісіяў на ўсіх узроўнях, а таксама скасаваць працэдуру датэрміновага галасаваньня, ці прынамсі забясьпечыць асобны падлік і запіс ў выбарчыя пратаколы галасоў з датэрміновага галасаваньня.
У рэзалюцыі таксама ўтрымліваецца заклік да беларускага ўраду паважаць правы чалавека і для гэтага скасаваць шэраг артыкулаў крымінальнага кодэксу, якія выкарыстоўваюцца для рэпрэсій, устрымацца ад перасьледу беларускіх студэнтаў, якія вучацца за мяжой пасьля выключэньня зь беларускіх ўнівэрсытэтаў за грамадзкую дзейнасьць, а таксама зьняць перашкоды на шляху рэгістрацыі няўрадавых арганізацый.
Эўрапарлямэнт таксама вітаў тое, што, нягледзячы на вялікі ціск, Беларусь не прызнала незалежнасьці Абхазіі і Паўднёвай Асэтыі. У рэзалюцыі выказваецца асуджэньне таго, што Беларусь адзіная сярод краінаў Эўропы захоўвае сьмяротнае пакараньне.
Праваабаронцы за свабодныя выбары. НАРОДНАЯ ініцыятыва "За свабодны выбар!".

**Паводле, Радыё СВАБОДА**

# Олег Гулак: «Формирование окружных комиссий проходило в закрытом режиме»

***Правозащитники отмечают непрозрачность формирования окружных избирательных комиссий.***

Формирование окружных избирательных комиссий завершилось 14 июля. По данным секретаря Центризбиркома Николая Лозовика, в их состав включено 38 представителей оппозиционных партий: 17 активистов Объединенной гражданской партии, 5 — Партии БНФ, 10 — Партии коммунистов Белорусской, 6 — Белорусской социал-демократической партии (Грамада).

Как отметил в интервью БелаПАН председатель общественного объединения "Белорусский Хельсинкский комитет" (БХК) Олег Гулак, то, что 38 активистов демсил вошли в окружные избирательных комиссии, — "хороший показатель". На прошлых "парламентских выборах", напомнил он, членами окружных комиссий стали всего 22 активиста оппозиции. Таким образом, "увеличение наблюдается почти на треть", отметил О.Гулак. Вместе с тем, по его словам, правозащитников "беспокоит то, что формирование комиссий проходило в фактически закрытом режиме".

Кроме того, по сведениям БХК, практически на все заседания по формированию комиссий не смогли попасть наблюдатели и журналисты. "Решения о формировании комиссий принимались буквально за полчаса. Нам неизвестно, какая там была процедура, как принимались решения. Формально, конечно, на этих заседаниях присутствие наблюдателей не обязательно, однако в таком случае невозможно говорить о прозрачности фактически первого этапа избирательной кампании", — считает О.Гулак.

В свою очередь, вице-президент Международной федерации прав человека **Алесь Беляцкий отмечает:** "Комиссии сформированы по тому же принципу, по которому они формировались во время предыдущих "избирательных кампаний" — и президентской, и парламентской. Конечно, то, что представителей политических партий в них сейчас больше, обнадеживает — но только в том плане, что мы будем знать, как работают 38 из 110 окружных избирательных комиссий. Больше мы ничего не добьемся".

**А.Беляцкий** также считает, что наличие одного представителя демократических сил в комиссии, состоящей из 13 человек, "ничего не решает". "В идеале комиссия должна состоять из представителей заинтересованных политических партий и организаций", — полагает правозащитник.

**Праваабаронца з Жодзіна, Аляксей Лапіцкі,** дадае, што ягоная кандыдатура пры фармаваньні Жодзінскай акруговай камісыі №66 у парушэньне законнай працыдуры ў Менскім аблвыканкаме – зусім не разглядалася. Ігнаруючы волю грамадзянаў, парушаючы выбарчыя правы жодзінцаў і ВК РБ, улады пайшлі на просты (верагодна звычайны для іх) падлог дакумэнтаў выбарчага зьместу й маніпуляцыю фактамі толькі для таго, каб неяк апраўдацца. Так, начальнік Галоўнага арганізацыйна-кадравага адзьдзелу выканкаму Міхал Амельянчук у сваім афіцыйным адказе на пратэст патлумачыў, што кандыдатура не разглядалася таму, што неабходныя дакумэнты для вылучэньня ў склад АВК №66 дастаўлены поштаю ўжо пасьля належнага тэрміну рэгістрацыі, 12.08.08.

Аднак, у праваабаронцы маецца на руках дакумэнт, які сьведчыць зусім пра іншае: адпраўлены 07.08.08 ліст з подпісамі грамадзянаў быў перададзены па прызначэньні не 12.08.08, а ўжо праз 2 дні пасьля адпраўкі, 09.08.08.

Па факце дадзенай маніпуляцыі фактамі й дакумэнтамі выбарчага зьместу, праваабаронца Аляксей Лапіцкі ўжо скіраваў адпаведныя заявы ў ЦВК і Пракуратуру Менскай вобласьці.

Як лічыць Аляксей Лапіцкі, дадзены факт красамоўна паказвае, як проста "загартаваная гадамі безадказнасьць" чыноўнікаў прыводзіць да кардынальных зьменаў у спосабах мысьцленьня – з нармальных на крымінальныя. Падмена законных выбарчых працэдураў цалкам відавочнымі неправамернымі дзеяньнямі, а выбарчага права грамадзянаў – карпаратыўна-кланавай мэтазгоднасьцю чыноўнікаў – становіцца ўжо цяжка схаванай звычкаю й спосабам захаваньня ва ўладзе... Не зробіш – станеш белай варонаю, пойдзеш супраць сыстэмы.

Гэта толькі чарговы раз дэманструе, з кім даводзіцца мець справы прадстаўнікам апазыцыі, адкрывае вочы аматарм "тэлевізійных казак" на выбарчыя рэаліі так званага самага дэмакратычнага, празрыстага й адкрытага ў сьвеце, выбарчага працэсу ў Беларусі ...

*(Выкарыстаны правапіс арыгіналаў)*



Незалежнае выданьне грамадзкай супольнасьці Жодзіна
(Выдавецкая ініцыятыва "Мы - Ліцьвіны" і агенцыя Licviny-INFA)
Адрас рэдакцыі:
222160 Жодзіна, а/с 201
E-mail: c_licviny@tut.by
Наклад 299 асобнікаў.
**Рэдактар АЛЕСЬ ВОЛЬНЫ**
Пры передруку спасылка на выданьне і першакрыніцу абавязковая.
